# АПАКАЛІПСІС СВЯТОГА ЯНА

## 1 (1-20)

[1]Аб’яўленне Езуса Хрыста, якое даў Яму Бог, каб паказаць слугам сваім,
што неўзабаве павінна адбыцца. Ён паказаў гэта, паслаўшы свайго анёла да
слугі свайго Яна, [2]які засведчыў пра слова Божае і сведчанне Езуса Хрыста, і
пра ўсё, што бачыў. [3]Шчаслівы, хто чытае і тыя, хто слухае словы прароцтва і
захоўвае напісанае ў ім, бо час блізкі.
[4]Ян — сямі Касцёлам у Азіі: ласка вам і спакой ад таго, які ёсць, і быў, і
прыходзіць, і ад сямі Духаў, што перад Ягоным тронам, [5]і ад Езуса Хрыста,
вернага сведкі, першароднага сярод памерлых і Уладара зямных каралёў.
Таму, хто любіць нас і хто праз сваю кроў вызваліў нас ад нашых грахоў [6]і
ўчыніў нас валадарствам і святарамі для Бога і Айца свайго, Яму хвала і моц на
векі вечныя. Амэн.
[7]*Вось Ён прыходзіць з аблокамі,* і кожнае вока *ўбачыць* Яго і ўсе тыя, *хто
працяў* Яго. *І будуць аплакваць Яго ўсе пакаленні зямлі.* Так, амэн.
[8]Я — Альфа і Амега, — кажа Пан Бог, — які ёсць, які быў і які прыходзіць,
Усемагутны.
[9]Я, Ян, брат ваш і саўдзельнік ва ўціску, у валадарстве і вытрываласці ў
Езусе, быў на востраве, званым Патмас, дзеля слова Божага і дзеля сведчання
пра Езуса. [10]Я напоўніўся Духам у дзень Пана і пачуў за сабою гучны голас,
быццам трубы, [11]які казаў: «Што бачыш, запішы ў кнізе і пашлі сямі Касцёлам:
у Эфес, у Смірну, у Пэргам, у Тыятыру, у Сарды, у Філадэльфію і Лаадыкею».
[12]Я абярнуўся, каб паглядзець, чый голас прамаўляў да мяне. І калі абярнуўся,
то ўбачыў сем залатых свечнікаў, [13]а пасярод свечнікаў *кагосьці падобнага да
Сына Чалавечага*, *апранутага ў доўгія шаты* і *падпяразанага* на грудзях
*залатым пасам.* [14]А *Яго галава* і *валасы былі белыя, быццам белая воўна,
быццам снег, а вочы Ягоныя* былі *як* полымя *агню.* [15]*Ногі ж Ягоныя* былі
*падобныя да бронзы*, нібы распаленай у печы, а *голас Яго — як шум вялікай
вады.* [16]У правай руцэ сваёй Ён меў сем зорак, а з Яго вуснаў выходзіў востры
двухбаковы меч, і твар Яго быў як сонца, што свеціць у сваёй моцы.
[17]Калі я ўбачыў Яго, упаў да ног Ягоных, нібы мёртвы. Ён паклаў на мяне
правіцу сваю, кажучы: «Не бойся! Я — першы і апошні, [18]і жывы; і быў мёртвы,
і вось жывы на векі вечныя; і маю ключы смерці і адхлані. [19]Таму напішы тое,
што ты ўбачыў, і што ёсць, і што павінна стацца пасля гэтага. [20]Што да
таямніцы сямі зорак, якія ты бачыў у Маёй правіцы, і сямі залатых свечнікаў, то
сем залатых зорак — гэта анёлы сямі Касцёлаў, а сем свечнікаў — гэта сем
Касцёлаў.

## 2 (1-29)

[1]Анёлу Касцёла ў Эфезе напішы:
Так кажа той, хто трымае сем зорак у сваёй правіцы, хто ходзіць сярод сямі
залатых свечнікаў. [2]Ведаю справы твае, і працу тваю, і цярплівасць тваю, і тое,
што ты не можаш зносіць злых, і выпрабаваў тых, хто называе сябе апосталамі,

але імі не з’яўляюцца, і выкрыў, што яны ашуканцы. [3]Ты маеш цярплівасць і пакутваў дзеля імя Майго, і не знямогся. [4]Але маю супраць цябе тое, што ты пакінуў першую любоў. [5]Таму згадай, адкуль ты ўпаў, і пакайся, і рабі так, як ты рабіў спачатку. Калі не, то Я прыйду да цябе і зрушу свечнік твой з яго месца, калі ты не пакаешся. [6]Але добра тое, што ты ненавідзіш учынкі нікалаітаў, якія і Я ненавіджу.

[7]Хто мае вушы, няхай пачуе, што Дух кажа Касцёлам. Пераможцу дам есці з дрэва жыцця, што ў раі Бога.

[8]Анёлу Касцёла ў Смірне напішы:

Так кажа Першы і Апошні, які быў мёртвы, але ажыў: [9]Я ведаю пра твой уціск і ўбоства, але ты багаты; ведаю пра блюзнерствы тых, хто называе сябе юдэямі, аднак не з’яўляюцца імі, але сінагогаю сатаны. [10]Не бойся таго, што павінен выцерпець. Вось д’ябал збіраецца кінуць некаторых з вас у вязніцу, каб вы зведалі выпрабаванне. І будзеце зносіць уціск дзесяць дзён. Будзь верны аж да смерці, і Я дам табе вянок жыцця.

[11]Хто мае вушы, няхай пачуе, што Дух кажа Касцёлам. Пераможца напэўна не зазнае шкоды ад другой смерці.

[12]Анёлу Касцёла ў Пэргаме напішы:

Так кажа той, хто мае востры двухбаковы меч. [13]Я ведаю, дзе ты жывеш: там, дзе трон сатаны, хоць трымаешся імені Майго і не адмовіўся ад веры ў Мяне, нават у дні, калі Мой верны сведка Антыпас быў забіты ў вас, дзе жыве сатана. [14]Але Я маю крыху супраць цябе, бо там ёсць тыя, хто трымаецца вучэння Балаама, які навучыў Балаака стварыць спакусу для сыноў Ізраэля, каб яны спажывалі ахвярапрынашэнні ідалам і распусьнічалі. [15]Таксама ў цябе ёсць тыя, хто падобна трымаецца вучэння нікалаітаў. [16]Таму апамятайся. У адваротным выпадку Я хутка прыйду да цябе і буду ваяваць з імі мячом Маіх вуснаў.

[17]Хто мае вушы, няхай пачуе, што Дух кажа Касцёлам. Пераможцу дам укрытую манну і белы каменьчык, а на каменьчыку будзе напісана новае імя, якога не ведае ніхто, акрамя таго, хто яго атрымлівае.

[18]Анёлу Касцёла ў Тыятыры напішы:

Так кажа Сын Божы, які мае вочы, быццам полымя агню, а ногі Яго падобны да бліскучай бронзы. [19]Я ведаю справы твае, і любоў, і веру, і служэнне, і цярплівасць тваю, і апошнія ўчынкі твае большыя за першыя. [20]Але Я маю супраць цябе тое, што ты дапускаеш жанчыну Езабэль, якая называе сябе прарочыцай, навучае і зводзіць Маіх слугаў, каб чыніць распусту і спажываць ахвярапрынашэнні ідалам. [21]Я даў ёй час апамятацца, але яна не хоча адвярнуцца ад сваёй распусты. [22]Вось кіну яе на ложа, а тых, хто распуснічае з ёй, аддам пад вялікі ўціск, калі не адвернуцца ад сваіх справаў. [23]І дзяцей яе знішчу смерцю. І пазнаюць усе Касцёлы, што Я той, хто даследуе нутро і сэрцы, і адплачу кожнаму з вас паводле ўчынкаў ягоных.

[24]Кажу ўсім вам, астатнім у Тыятыры, хто не мае гэтага вучэння і хто не пазнаў, як кажуць, глыбіняў сатаны, што Я не ўскладу на вас іншага цяжару. [25]Але тое, што маеце, захоўвайце, пакуль не прыйду. [26]Хто пераможа і захавае да канца ўчынкі Мае, таму

*дам* уладу над *народамі*,
[27]і *ён будзе пасвіць іх жалезным кіем*;
*як гліняны посуд яны будуць разбітыя*.
[28]І як узяў Я ад Айца Майго, так і яму дам ранішнюю зорку.
[29]Хто мае вушы, няхай пачуе, што Дух кажа Касцёлам.

## 3 (1-22)

[1]Анёлу Касцёла ў Сардах напішы:
Так кажа той, хто мае сем духаў Божых і сем зорак. Ведаю твае справы. Ты
носіш імя, быццам жывы, але ты мёртвы. [2]Чувай і ўмацоўвай рэшту, блізкую да
смерці, бо Я не палічыў твае ўчынкі дасканалымі перад Богам Маім. [3]Згадай,
што ты прыняў і пачуў, і захоўвай, і пакайся. Калі ж не будзеш чуваць, то Я
прыйду, як злодзей, і не будзеш ведаць, у якую гадзіну прыйду да цябе. [4]Але ты
маеш у Сардах некалькі чалавек, якія не заплямілі шатаў сваіх і будуць хадзіць
са Мною ў белі, бо яны годныя. [5]Так апранецца ў белыя шаты пераможца, і Я не
сатру імені ягонага з кнігі жыцця, і вызнаю імя яго перад Айцом Маім і перад
анёламі Ягонымі.
[6]Хто мае вушы, няхай пачуе, што Дух кажа Касцёлам.
[7]Анёлу Касцёла ў Філадэльфіі напішы:
Так кажа Святы, Праўдзівы, які мае *ключ Давіда, які адмыкае — і ніхто не
замкне, замыкае — і ніхто не адамкне*. [8]Ведаю Твае справы, вось Я паставіў
цябе перад адчыненымі дзвярыма, якіх ніхто не можа зачыніць, бо ў цябе мала
сілы, але ты захаваў Маё слова і не адмовіўся ад імені Майго. [9]Вось даю тых з
сінагогі сатаны, якія кажуць, што яны юдэі, хоць імі не з’яўляюцца, і хлусяць. Я
ўчыню, што яны прыйдуць і паклоняцца ў ногі табе, і пазнаюць, што Я палюбіў
цябе. [10]Паколькі ты захаваў мой наказ цярплівасці, Я таксама захаваю цябе ад
гадзіны выпрабавання, якая павінна прыйсці ў цэлы свет, каб выпрабаваць
жыхароў зямлі. [11]Я хутка прыйду. Трымай тое, што маеш, каб ніхто не забраў
твайго вянка. [12]А пераможцу зраблю калонай у святні Майго Бога, і ўжо не
выйдзе вонкі, і напішу на ім імя Майго Бога і імя горада Бога Майго, новага
Ерузалема, які спускаецца з неба ад Бога Майго, і сваё новае імя.
[13]Хто мае вушы, няхай пачуе, што Дух кажа Касцёлам.
[14]Анёлу Касцёла ў Лаадыкеі напішы:
Так кажа Амэн, сведка верны і праўдзівы, пачатак стварэння Божага.
[15]Ведаю твае справы: ты ні халодны, ні гарачы. О, калі б ты быў халодны ці
гарачы! [16]Але таму, што ты цёплы, а не гарачы і не халодны, выплюну цябе з
вуснаў Маіх. [17]Бо ты кажаш: “Я багаты і разбагацеў, і ні ў чым не маю
патрэбы”, а не ведаеш, што ты няшчасны, і варты жалю, і ўбогі, і сляпы, і голы.
[18]Раю табе купіць у Мяне золата, ачышчанае агнём, каб ты разбагацеў, і белую
шату, каб ты апрануўся і каб не быў бачны сорам галечы тваёй. Бальзамам
памаж вочы свае, каб бачыць. [19]Каго Я люблю, тых дакараю і выхоўваю. Таму
будзь руплівы і пакайся. [20]Вось стаю каля дзвярэй і стукаю. Калі хто пачуе Мой
голас і адчыніць дзверы, увайду да яго і буду вячэраць з ім, а ён са Мною.

[21]Пераможцу дам сесці са Мною на троне Маім, як і Я перамог і сеў з Айцом
Маім на троне Яго.
[22]Хто мае вушы, няхай пачуе, што Дух кажа Касцёлам».

## **4 (1-11)**

[1]Пасля гэтага я ўбачыў: вось дзверы адчыненыя ў небе, і ранейшы голас,
які я чуў, як бы гук трубы, што гаварыў са мною, сказаў: «Узыдзі сюды, і
пакажу табе, што павінна адбыцца пасля гэтага». [2]Я адразу напоўніўся Духам. І
вось трон стаяў на небе, а на троне нехта сядзеў. [3]Той, які сядзеў, з выгляду быў
падобны да каменя яшмы і сердаліку, і вясёлка была вакол трона, з выгляду
падобная да смарагду. [4]І навокал трона было дваццаць чатыры троны. А на
тронах сядзелі дваццаць чатыры старцы, апранутыя ў белыя шаты. І на галовах
іхніх — залатыя вянкі. [5]І з трона сыходзілі маланкі, і галасы, і грымоты. І сем
паходняў вогненных, якія ёсць сямю Божымі духамі, гарэла перад тронам. [6]І
перад тронам было быццам мора шкляное, падобнае да крышталю. А
пасярэдзіне трона і навокал трона былі чатыры жывыя істоты, поўныя вачэй
спераду і ззаду. [7]*Першая* жывая істота была падобная да *льва*, а *другая* жывая
істота — падобная да *вала*, *трэцяя* жывая істота мела аблічча, як у *чалавека*, а
*чацвёртая* жывая істота была падобная да *арла*, які ляціць. [8]І *кожная з* чатырох
жывых *істот* мела па *шэсць крылаў*, а вакол і ўсярэдзіне яны поўныя вачэй. І
не маюць яны спакою ні ўдзень, ні ўначы, кажучы: «*Святы, святы, святы Пан
Бог усемагутны*, які быў, ёсць і прыходзіць!»
[9]І калі жывыя істоты аддадуць славу, і пашану, і падзяку таму, хто сядзіць
на троне, хто жыве на векі вечныя, [10]тады дваццаць чатыры старцы ўпадуць
перад тым, хто сядзіць на троне, і пакланяцца таму, хто жыве на векі вечныя, і
кінуць вянкі свае перад тронам, кажучы:
[11]«Ты, Пане і наш Божа,
годны прыняць славу і пашану, і сілу,
бо Ты стварыў усё,
і з Тваёй волі існавала і было створана».

## **5 (1-14)**

[1]І ўбачыў я ў правіцы таго, хто сядзіць на троне, кнігу, запісаную ўнутры і
звонку, запячатаную сямю пячаткамі. [2]І бачыў я магутнага анёла, які абвяшчаў
гучным голасам: «Хто годны разгарнуць гэтую кнігу і зняць пячаткі з яе?» [3]І
ніхто не мог ні на небе, ні на зямлі, ні пад зямлёю разгарнуць гэтую кнігу, ні
зазірнуць у яе. [4]І я моцна плакаў таму, што не знайшлося годнага, каб адкрыць
кнігу і зазірнуць у яе. [5]Тады адзін са старцаў сказаў мне: «Не плач, вось
перамог леў з племені Юды, корань Давіда, каб разгарнуць гэтую кнігу і зняць з
яе сем пячатак».
[6]І я ўбачыў, што пасярод трона і чатырох жывых істот, і сярод старцаў
стаяў Баранак, нібы забіты, і меў сем рагоў і сем вачэй, якія ёсць сямю Божымі
духамі, спасланымі на ўсю зямлю. [7]Ён прыйшоў і ўзяў кнігу з правіцы таго, хто

сядзеў на троне. [8]А калі Ён узяў кнігу, тады чатыры жывыя істоты і дваццаць
чатыры старцы ўпалі перад Баранкам; кожны меў гуслі і залатыя чашы, поўныя
кадзіла, якое ёсць малітвай святых. [9]І спявалі яны новую песню, кажучы:
«Ты годны ўзяць кнігу
і зняць з яе пячаткі,
бо Ты быў забіты і сваёй крывёю Ты адкупіў нас для Бога
з кожнага роду, і мовы, і племені, і народу,
[10]і зрабіў нас валадарствам і святарамі для Бога нашага;
і мы будзем валадарыць на зямлі».
[11]Я бачыў і чуў голас мноства анёлаў вакол трона і жывых істот, і старцаў,
колькасць іх была мірыяды мірыяд і тысячы тысяч. [12]Яны казалі гучным
голасам:
«Забіты Баранак
годны прыняць моц, і багацце, і мудрасць,
і сілу, і пашану, і хвалу, і благаслаўленне».
[13]І я чуў, як кожнае стварэнне, якое ёсць на небе і на зямлі, і пад зямлёю, і
на моры, і ўсё, што ў іх, казала: «Таму, хто сядзіць на троне, і Баранку —
благаслаўленне і пашана, і хвала, і моц на векі вечныя».
[14]А чатыры жывыя істоты казалі: «Амэн». Старцы ж упалі і пакланіліся.

## 6 (1-17)

[1]І ўбачыў я, што Баранак адкрыў адну з сямі пячатак, і пачуў я адну з
чатырох жывых істот, якая гаварыла як бы голасам грому: «Прыйдзі». [2]І я
ўбачыў: вось, белы конь, а вершнік на ім меў лук, і дадзены яму быў вянок, і ён
вырушыў як пераможца, каб перамагаць.
[3]А калі адкрыў другую пячатку, я пачуў як другая жывая істота казала:
«Прыйдзі». [4]І выйшаў іншы конь, вогненны, а вершніку яго было дадзена
забраць спакой з зямлі, каб людзі выразалі адзін аднаго, і дадзены быў яму
вялікі меч.
[5]А калі адкрыў трэцюю пячатку, я пачуў трэцюю жывую істоту, якая
казала: «Прыйдзі». І ўбачыў: вось, чорны конь, а вершнік на ім меў вагі ў сваіх
руках. [6]І я пачуў яго голас пасярод чатырох жывых істот, які казаў: «Кварта
збожжа за дынар і тры кварты ячменю за дынар. Аднак не марнуй алею і віна».
[7]І калі адкрыў чацвёртую пячатку, я пачуў голас чацвёртай жывой істоты,
якая казала: «Прыйдзі». [8]І ўбачыў: вось конь бледна-зялёны, а вершнік на ім
меў імя Смерць, і Адхлань спадарожнічала яму. І была дадзена яму ўлада над
чвэрцю зямлі, каб забіваць мячом і голадам, і смерцю, і дзікімі звярамі зямлі.
[9]Калі адкрыў пятую пячатку, я ўбачыў пад алтаром душы забітых за Божае
слова і за сведчанне, якое мелі. [10]І яны гучна ўскрыкнулі, кажучы: «Дакуль жа,
святы і праўдзівы Валадару, Ты не будзеш судзіць і спаганяць за нашу кроў з
жыхароў зямлі?»
[11]І кожнаму з іх былі дадзены белыя шаты, і было сказана ім, каб адпачылі
яшчэ кароткі час, пакуль не дапоўніцца лік іхніх супольнікаў-слугаў і братоў
іхніх, што, як і яны, павінны быць забітыя.

[12]Калі адкрыў шостую пячатку, я ўбачыў, што стаўся вялікі землятрус і
сонца стала чорнае, як валасяны мяшок, і ўвесь месяц стаў як кроў, [13]і зоркі
неба ўпалі на зямлю, як недаспелыя смоквы, што скідае ўзрушаная моцным
ветрам смакоўніца. [14]І неба было аддзелена, як скрутак кнігі, а кожная гара і
выспа зварухнуліся са сваіх месцаў. [15]І каралі зямлі, і вяльможы, і тысячнікі, і
багачы, і моцныя, і кожны нявольнік, і свабодны схаваліся ў пячорах і ў горных
скалах. [16]*І кажуць горам і скалам: «Упадзіце на нас* і схавайце ад аблічча таго,
хто сядзіць на троне, і ад гневу Баранка, [17]бо настаў вялікі дзень гневу Ягонага,
і хто зможа выстаяць?»

## 7 (1-17)

[1]Потым я ўбачыў чатырох анёлаў, якія стаялі на чатырох вуглах зямлі і
трымалі чатыры вятры зямлі, каб вецер не дзьмуў ні на зямлю, ні на мора, ні на
якое дрэва. [2]І я ўбачыў іншага анёла, які сыходзіў з усходу сонца і меў пячатку
Бога жывога. І ўсклікнуў ён гучным голасам да чатырох анёлаў, якім было
дадзена ўчыніць зло зямлі і мору, [3]кажучы: «Не чыніце зло ні зямлі, ні мору, ні
дрэвам, пакуль мы не паставім пячаткі слугам Бога нашага на чолах іхніх». [4]І я
пачуў лічбу пазначаных пячаткаю: сто сорак чатыры тысячы пазначаных
пячаткаю з усіх плямёнаў сыноў Ізраэля. [5]З племені Юды дванаццаць тысяч
апячатаных, з племені Рубэна дванаццаць тысяч, з племені Гада дванаццаць
тысяч, [6]з племені Асэра дванаццаць тысяч, з племені Нэфталіма дванаццаць
тысяч, з племені Манасэса дванаццаць тысяч, [7]з племені Сімяона дванаццаць
тысяч, з племені Леві дванаццаць тысяч, з племені Ісахара дванаццаць тысяч, [8]з
племені Забулона дванаццаць тысяч, з племені Юзафа дванаццаць тысяч, з
племені Бэньяміна дванаццаць тысяч апячатаных.

[9]Пасля гэтага я ўбачыў вялікі натоўп, якога ніхто не мог палічыць, з усіх
народаў, плямёнаў, родаў і моваў, якія стаялі перад тронам і Баранкам,
апранутыя ў белыя шаты і з пальмовымі галінкамі ў руках сваіх. [10]І яны крычалі
гучным голасам, кажучы: «Збаўленне належыць Богу нашаму, які сядзіць на
троне, і Баранку».

[11]І ўсе анёлы стаялі вакол трона і старцаў, і чатырох жывых істот. І ўпалі
яны на твары свае перад тронам, і пакланіліся Богу, [12]кажучы:

«Амэн! Благаслаўленне і слава, і мудрасць, і падзяка, і пашана, і сіла, і моц
Богу нашаму на векі вякоў. Амэн».

[13]І адзін са старцаў звярнуўся да мяне, кажучы: «Хто гэта, апранутыя ў
белыя шаты, і адкуль яны паходзяць?» [14]І я сказаў яму: «Мой пане, ты ведаеш».
А ён адказаў мне: «Гэта тыя, хто прыйшоў з вялікага ўціску і абмыў шаты свае,
і выбеліў іх у крыві Баранка. [15]Таму яны — перад тронам Бога і служаць Яму
ўдзень і ўначы ў святыні. А той, хто сядзіць на троне, раскіне над імі свой
шацёр. [16]*Яны* ўжо *не будуць ні галадаць, ні прагнуць, і не будзе паліць іх сонца і*
ніякая *спёка*, [17]бо Баранак, які пасярод трона, *будзе пасвіць іх і вадзіць да
крыніц жывой вады. І вытра Бог кожную слязу* з іхніх вачэй».

## 8 (1-13)

[1]І калі адкрыў сёмую пячатку, у небе ўсталявалася ціша дзесьці на
паўгадзіны. [2]І я ўбачыў сем анёлаў, якія стаялі перад Богам, і было дадзена ім
сем трубаў. [3]І прыйшоў іншы анёл, і стаў пры алтары, маючы залатую
кадзільніцу, і было дадзена яму шмат кадзіла, каб ён прынёс яго з малітвамі
ўсіх святых на залаты алтар перад тронам. [4]І ўзышоў дым кадзіла з малітвамі
святых з рукі анёла перад Богам. [5]І ўзяў анёл кадзільніцу, і напоўніў яе агнём з
алтара, і кінуў на зямлю, і пачаліся гром, і галасы, і маланкі, і землятрус.

[6]Тады сем анёлаў, якія мелі сем трубаў, падрыхтаваліся, каб затрубіць.

[7]І затрубіў першы. І паўстаў град і агонь, змяшаны з крывёй, і быў кінуты
на зямлю. І была спалена траціна зямлі, і была спалена траціна дрэў, і ўся
зялёная трава была спалена.

[8]І затрубіў другі анёл. І як бы вялікая гара, якая палае ў агні, была кінутая ў
мора. І траціна мора стала крывёй, [9]і загінула траціна марскіх стварэнняў, што
мелі жыццё, і была загублена траціна караблёў.

[10]І затрубіў трэці анёл. І ўпала з неба вялікая зорка, якая палала, быццам
лямпа, і ўпала на траціну рэк і на крыніцы вады. [11]А імя зоркі гэтай — Палын. І
стала траціна вады палыном, і многія людзі паміралі ад вады, бо яна стала
горкая.

[12]І затрубіў чацвёрты анёл. І ўдараная была траціна сонца, і траціна месяца,
і траціна зорак, так што траціна іх зацьмілася і дзень не з’яўляўся на сваю
траціну, таксама і ноч.

[13]І я ўбачыў, і пачуў аднаго арла, які ляцеў пасярод неба і гучна казаў:
«Бяда, бяда, бяда тым, хто жыве на зямлі ад трубных галасоў астатніх трох
анёлаў, якія павінны затрубіць!»

## 9 (1-21)

[1]І затрубіў пяты анёл. І я ўбачыў зорку, якая ўпала з неба на зямлю, і быў
дазены ёй ключ ад студні бездані. [2]І адкрылася студня бездані, і падняўся дым
са студні, як з вялікай печы, і зацьмілася сонца і паветра ад дыму са студні. [3]І з
дыму выйшла саранча на зямлю, і была дадзена ёй улада на зямлі, якую маюць
зямныя скарпіёны. [4]І было сказана ёй, каб не рабіла шкоды зямной траве, ніякай
зеляніне і ніякаму дрэву, але толькі людзям, якія не маюць пячаткі Бога на
чолах. [5]І было загадана ёй не забіваць іх, але мучыць пяць месяцаў. І пакуты іх
былі як пакуты ад скарпіёна, калі ён кусае чалавека. [6]І ў тыя дні людзі будуць
шукаць смерці, але не знойдуць яе, і будуць жадаць памерці, але смерць уцячэ
ад іх.

[7]А выгляд саранчы падобны да коней, падрыхтаваных да бою, і на галовах
іх як бы вянкі, падобныя да золата, і твары іх — як твары людзей. [8]І валасы яе
— як валасы жанчын, а зубы іх, быццам у львоў. [9]І мела яна панцыры, як
жалезныя панцыры, і голас крылаў яе — як гул калясніц шматлікіх коней, якія
бягуць на бітву. [10]І мае яна хвасты, падобныя да скарпіёнавых, і джалы, а ў
хвасце — моц для прычынення шкоды людзям на працягу пяці месяцаў. [11]Яна

мае над сабой караля — анёла бездані. Імя яму па-габрэйску Абадон, а па-
грэцку — Апаліён, гэта значыць Знішчальнік.
12 Мінула адна бяда. Вось надыходзяць яшчэ дзве бяды за ёй.
13 І затрубіў шосты анёл. І я пачуў адзін голас ад чатырох рагоў залатога
алтара перад Богам, 14 які казаў шостаму анёлу, што меў трубу: «Вызвалі
чатырох анёлаў, звязаных над вялікай ракою Еўфрат». 15 І былі вызваленыя
чатыры анёлы, падрыхтаваныя на гэтую гадзіну, дзень і месяц, каб пазабіваць
траціну людзей. 16 І лік войскаў конніцы — дзве мірыяды мірыяд. Я пачуў іх
колькасць. 17 І так я ўбачыў у візіі коней і вершнікаў, якія мелі панцыры колеру
агню, гіяцынту і серы. А галовы коней — як галовы львоў, а з пыс іхніх
выходзіць агонь, дым і сера. 18 Ад трох гэтых удараў была забіта траціна
людзей, ад агню, дыму і серы, што выходзілі з іхніх пыс. 19 Моц коней была ў іх
пысах і хвастах, бо хвасты іх былі падобныя да змей і мелі галовы, і імі
прычынялі шкоду.
20 А рэшта людзей, што не была забіта ад гэтых удараў, не адвярнулася ад
спраў сваіх рук, каб не пакланяцца дэманам, *залатым, срэбным і бронзавым, а
таксама каменным і драўляным ідалам, якія* не могуць *ні бачыць, ні чуць, ні
хадзіць*. 21 І не адвярнуліся ні ад сваіх забойстваў, ні ад сваіх чараў, ні ад сваёй
распусты, ні ад свайго крадзяжу.

## 10 (1-11)

1 І ўбачыў я іншага моцнага анёла, які сыходзіў з неба, апрануты ў хмару, а
вясёлка была на галаве яго. Твар яго — быццам сонца, а ногі яго — як калонны
агню. 2 Ён меў у руцэ разгорнутую кнігу. І паставіў ён сваю правую нагу на
моры, а левую — на зямлі. 3 І гучна закрычаў, быццам рыкае леў. А калі
крыкнуў, сем громаў загаварыла сваімі галасамі. 4 І калі сказала сем громаў, я
павінен быў пісаць. І пачуў я голас з неба, які гаварыў: «Запячатай тое, што
сказала сем громаў, і не пішы гэтага».
5 І анёл, якога я бачыў стаячым на моры і на зямлі, *падняў сваю правую руку
да неба* 6 *і пакляўся Жывым на векі* вякоў, які стварыў неба і тое, што ў ім,
зямлю і тое, што на ёй, і мора з тым, што ў ім: «Ужо няма часу, 7 але ў дні голасу
сёмага анёла, калі ён павінен будзе затрубіць, здзейсніцца таямніца Бога, так як
Ён абвясціў сваім слугам прарокам».
8 І голас, які я пачуў з неба, зноў гаварыў са мною і казаў: «Ідзі, вазьмі
разгорнутую кнігу з рукі анёла, які стаіць на моры і на зямлі». 9 І я пайшоў да
анёла, і сказаў яму, каб ён даў мне кнігу. Ён адказаў мне: «Вазьмі і праглыні яе.
Яна будзе горкая для жывата твайго, але ў вуснах тваіх будзе салодкая, як мёд».
10 І ўзяў я кнігу з рукі анёла, і праглынуў яе. І была яна ў вуснах маіх салодкая,
як мёд. А калі з’еў яе, то горка зрабілася ў жываце маім. 11 І сказалі мне: «Ты
зноў павінен прарочыць пра плямёны, і народы, і мовы, і пра многіх каралёў».

## 11 (1-19)

1І была дадзена мне трысціна, падобная да кія. І было сказана мне:
«Падыміся і памерай святыню Бога і алтар, і тых, хто пакланяецца ў ёй.
2Вонкавы дзядзінец святыні пакінь знадворку і не мерай яго, бо ён дадзены
язычнікам, і яны будуць дратаваць Мой святы горад сорак два месяцы. 3І дам
двум сваім сведкам, апранутым у мешкавіну, прарочыць тысяча дзвесце
шэсцьдзесят дзён». 4*Яны як два дрэвы аліўныя і два свечнікі, што стаяць перад
Панам зямлі*. 5І калі хто хоча іх пакрыўдзіць, то агонь выйдзе з вуснаў іхніх і
паглыне ворагаў іхніх. Той, хто хоча іх пакрыўдзіць, той павінен быць забіты
такім чынам. 6Яны маюць уладу закрыць неба, каб не ішоў дождж на зямлю ў
дні прароцтва іхняга, і маюць уладу над водамі, каб ператварыць іх у кроў і
ўдарыць зямлю ўсякім бедствам, калі толькі захочуць. 7І калі скончаць яны
сведчанне сваё, звер, які выходзіць з бездані, пачне вайну з імі, і пераможа іх, і
заб’е іх. 8І трупы іхнія пакіне на плошчы вялікага горада, які сімвалічна
называецца Садома і Егіпет, дзе таксама быў укрыжаваны іх Пан. 9І многія з
плямёнаў, і родаў, і моваў, і народаў будуць глядзець на іх трупы тры з паловаю
дні і не дазволяць іх пакласці ў магілу. 10Жыхары зямныя будуць радавацца над
імі і весяліцца, і будуць слаць падарункі адзін аднаму, бо два прарокі гэтыя
мучылі жыхароў зямлі.

11Але праз тры с паловаю дні дух жыцця ад Бога ўвайшоў у іх, і яны ўсталі
на свае ногі. І вялікі страх ахапіў тых, хто на іх глядзеў. 12І пачулі яны гучны
голас з неба, які казаў ім: «Узыдзіце сюды». І яны ўзышлі на неба ў воблаку, і
глядзелі на іх ворагі іхнія. 13І ў гэтую гадзіну адбыўся вялікі землятрус, і адна
дзясятая горада ўпала, і былі забітыя падчас землятрусу тысяча сем асоб
людскіх, астатнія ж спалохаліся і ўзнеслі хвалу Богу неба.

14Мінула другая бяда, вось хутка надыходзіць трэцяя.

15І затрубіў сёмы анёл. І пачуліся ў небе вялікія галасы, якія казалі:
«Настала валадаранне над светам Пана нашага і Памазаніка Яго, і Ён будзе
валадарыць на векі вякоў».

16І дваццаць чатыры старцы, што сядзелі на тронах сваіх перад Богам,
упалі на свае твары і пакланіліся Богу, 17кажучы:
«Дзякуем Табе,
Пане Божа ўсемагутны,
які ёсць і які быў,
бо Ты прыняў сваю вялікую моц і запанаваў.
18І разгневаліся народы,
і прыйшоў Твой гнеў і час суда над памерлымі,
каб даць узнагароду слугам Тваім, прарокам і святым,
і тым, хто баіцца Твайго імя, малым і вялікім,
і знішчыць тых, хто знішчае зямлю».

19Тады адчынілася святыня Бога ў небе, і з’явіўся каўчэг Яго запавету ў
святыні Ягонай. І пачаліся бліскавіцы, гул і грымоты, землятрус і вялізны град.

## 12 (1-18)

[1]І знак вялікі з’явіўся на небе: жанчына, апранутая ў сонца, і месяц пад
нагамі яе, а над яе галавою вянок з дванаццаці зорак. [2]Яна была цяжарная і
крычала ад болю і родавых пакутаў. [3]І з’явіўся другі знак на небе: вось вялікі
вогненны цмок з сямю галовамі і дзесяццю рагамі, а над галавой яго сем
дыядэм. [4]Хвост ягоны змятае трацiну зорак нябесных і кідае іх на зямлю. Цмок
стаў перад жанчынаю, якая павінна была нарадзіць, каб пажэрці дзіця, як толькі
народзіць. [5]І нарадзіла яна сына, мужчыну, які *будзе пасвіць* усе *народы
жалезным кіем*. І дзіцё было забрана ад яе да Бога і да Ягонага трона. [6]А
жанчына ўцякла ў пустыню, дзе ёй было падрыхтавана месца Богам, каб яе
кармілі там тысячу дзвесце шэсцьдзесят дзён.

[7]І ўзнялася вайна на небе: Міхал і анёлы ягоныя ваявалі з цмокам. І цмок
ваяваў, і ягоныя анёлы. [8]Але не перамаглі, і ўжо не знайшлося месца для іх на
небе. [9]І скінуты быў цмок вялікі, змей старадаўні, называны д’яблам і сатаною,
што зводзіць увесь свет. Ён скінуты быў на зямлю, і з ім разам скінуты анёлы
ягоныя. [10]І пачуў я голас моцны, які казаў з неба:
«Цяпер настала збаўленне і сіла, і валадаранне Бога нашага,
і ўлада Памазаніка Ягонага,
бо скінуты абвінаваўца братоў нашых,
які дзень і ноч абвінавачваў іх перад Богам нашым.
[11]Яны перамаглі яго дзякуючы крыві Баранка
і дзякуючы слову сведчання свайго;
і не палюбілі жыцця свайго
аж да смерці.
[12]Таму радуйцеся, нябёсы
і ўсе, хто насяляе іх.

Гора зямлі і мору, бо сышоў д’ябал да вас у вялікім гневе, ведаючы, што
кароткі час яго!»

[13]А калі цмок убачыў, што ён скінуты на зямлю, пачаў пераследаваць
жанчыну, якая нарадзіла мужчыну. [14]І былі дадзены жанчыне два вялікія
арліныя крылы, каб яна ляцела ў пустыню на месца сваё, дзе яе будуць карміць
час, і часы, і палову часу здалёк ад цмока. [15]І пусціў змей з вуснаў сваіх за
жанчынай ваду, быццам раку, каб яе панесла рака. [16]Але зямля дапамагла
жанчыне, і адкрыла зямля вусны свае, і паглынула раку, якую выпусціў цмок з
вуснаў сваіх.

[17]Тады раззлаваўся цмок на жанчыну і распачаў вайну з астатнімі яе
нашчадкамі, якія захоўваюць запаведзі Бога і маюць сведчанне Езуса.

[18]І стаў на беразе мора.

## 13 (1-18)

[1]І ўбачыў я звера, які выходзіў з мора і меў дзесяць рагоў і сем галоў, а на
рагах ягоных дзесяць дыядэм, і на галовах ягоных імя блюзнерства. [2]Звер, якога
я ўбачыў, нагадваў пантэру, а лапы яго як у мядзведзя, а пашча яго як у льва. І

даў яму цмок сваю моц, і трон свой, і вялікую ўладу. [3]І адна з галоў яго —
быццам смяротна параненая, а яе смяротная рана была вылечаная.
І ўся зямля дзівілася, ідучы за зверам; [4]і пакланіліся цмоку, бо ён даў уладу
зверу; і пакланіліся зверу, кажучы: «Хто падобны да звера, і хто можа пачаць
вайну з ім?»
[5]І былі яму дадзеныя вусны, што казалі рэчы, якія гучалі як вялікія, і
блюзнерствы, і была яму дадзена ўлада дзейнічаць сорак два месяцы. [6]І адкрыў
ён сваю пысу для блюзнерстваў супраць Бога, каб блюзніць супраць імені Яго, і
скініі Яго, і супраць нябесных жыхароў. [7]Дадзена яму было ўчыніць вайну са
святымі і перамагчы іх, і была дадзена яму ўлада над кожным племем, і родам, і
мовай, і народам. [8]І пакланяцца яму ўсе жыхары зямлі, чыё імя не запісана ад
заснавання свету ў кнізе жыцця забітага Баранка. [9]Калі нехта мае вушы, няхай
пачуе.
[10]*Калі некаму наканавана няволя,*
*няхай* ідзе *ў няволю*.
*Калі некаму наканавана загінуць ад мяча,*
той павінен быць забіты *мячом*.
У гэтым цярплівасць і вера святых.
[11]І ўбачыў я іншага звера, які выходзіў з зямлі і меў два рогі, як у Баранка,
але гаварыў як цмок. [12]І ён дзейнічае перад першым зверам з усёй яго ўладай і
робіць так, каб уся зямля і яе жыхары пакланіліся першаму зверу, смяротная
рана якога была вылечана. [13]Ён робіць вялікія знакі, прымушаючы нават агонь
сыходзіць з неба на зямлю перад людзьмі. [14]Ашуквае жыхароў зямлі з
дапамогай знакаў, якія яму было дадзена ўчыніць перад зверам, кажучы
жыхарам зямлі, каб яны зрабілі вобраз звера, які атрымаў удар мячом і ажыў. [15]І
было дадзена яму напоўніць духам вобраз звера, каб вобраз звера гаварыў і
дзейнічаў так, каб быў забіты кожны, хто не пакloніцца вобразу звера. [16]Ён
робіць таксама, што ўсе, малыя і вялікія, багатыя і бедныя, свабодныя і
нявольнікі, атрымліваюць кляймо на правую руку або на сваё чало; [17]і ніхто не
можа ні купіць, ні прадаць, калі не мае знаку, імені звера або лічбы імені
ягонага. [18]Тут ёсць мудрасць. Хто мае розум, няхай падлічыць лічбу звера, бо
гэта лічба чалавека. А лічба яго шэсцьсот шэсцьдзесят шэсць.

## 14 (1-20)

[1]І ўбачыў я: вось Баранак стаіць на Сіёнскай гары, а з Ім сто сорак чатыры
тысячы, у якіх імя Яго і імя Айца Ягонага напісана на чолах. [2]І пачуў я голас з
неба, як шум ад мноства водаў і як гук вялікага грому. А голас, які пачуў, быў
нібы голас гусляроў, што гралі на гуслях сваіх. [3]Яны спяваюць як бы новую
песню перад тронам і перад чатырма жывымі істотамі і старцамі. І ніхто не мог
навучыцца гэтай песні, акрамя ста сарака чатырох тысяч, адкупленых з зямлі.
[4]Гэта тыя, хто не зганьбіў сябе з жанчынамі, бо гэта цнатліўцы. Гэта тыя, якія
ідуць следам за Баранкам, куды б Ён ні пайшоў. Яны адкуплены з людзей, як
пачаткі Богу і Баранку. [5]У вуснах іхніх няма падману. Яны беззаганныя.

[6]І я ўбачыў іншага анёла, які ляцеў пасярод неба, каб абвясціць вечнае
Евангелле жыхарам зямлі і кожнаму роду, і племені, і мове, і народу, [7]голасна
кажучы: «Пабойцеся Бога і аддайце Яму хвалу, бо настала гадзіна Ягонага суда;
пакланіцеся таму, хто стварыў неба і зямлю, і мора, і крыніцы водаў».

[8]Іншы, другі анёл наблізіўся, кажучы: «Упаў, упаў вялікі Бабілён, які
напаіў усе народы віном сваёй лютай распусты!»

[9]А іншы анёл, трэці, прыйшоў пасля іх, гучна кажучы: «Калі нехта
пакланяецца зверу і вобразу ягонаму і прымае кляймо яго на чало сваё ці на
руку сваю, [10]сам таксама нап’ецца віна лютасці Божай, прыгатаванага без
дамешкі ў келіху Ягонага гневу, і будзе катаваны агнём і серай перад святымі
анёламі і перад Баранкам. [11]Дым катавання іхняга будзе падымацца на векі
вякоў, і не будзе мець адпачынку ні днём, ні ноччу той, хто пакланяецца зверу і
вобразу яго, і той, хто прымае кляймо ягонага імені».

[12]У гэтым цярплівасць святых, якія захоўваюць запаведзі Бога і веру ў
Езуса. [13]І пачуў я голас з неба, які казаў: «Напішы: Адгэтуль шчаслівыя
памерлыя, якія паміраюць у Пану. Сапраўды, — кажа Дух, — няхай адпачнуць
ад сваіх прац, бо іхнія справы ідуць за імі». [14]І ўбачыў я: вось белае воблака, а
на воблаку сядзіць падобны да Сына Чалавечага. На галаве ў Яго — залаты
вянок, а ў руцэ Ягонай — востры серп. [15]І выйшаў другі анёл са святыні, і
ўсклікнуў гучным голасам да таго, хто сядзеў на воблаку: «Пашлі серп твой і
пачынай жаць, бо прыйшоў час жніва, таму што саспела жніво на зямлі». [16]Той,
хто сядзеў на воблаку, кінуў свой серп на зямлю, і зямля была пажата.

[17]І другі анёл выйшаў са святыні, якая была на небе, і ён меў востры серп.
[18]І іншы анёл, які меў уладу над агнём, выйшаў ад алтара і гучным голасам
крыкнуў да таго, хто меў востры серп: «Пашлі твой востры серп і збяры гронкі
вінаграду на зямлі, бо спелыя яго гронкі». [19]І кінуў анёл серп свой на зямлю, і
сабраў вінаград зямлі, і кінуў у вялікае давіла Божага гневу. [20]І таптালі давіла за
горадам, а з давіла пацякла кроў аж па вуздэчкі коней, на тысячу шэсцьсот
стадыяў.

## 15 (1-8)

[1]І ўбачыў я іншы знак у небе, вялікі і дзівосны: сем анёлаў, якія мелі сем
апошніх бедстваў, таму што імі закончыцца гнеў Божы.

[2]І ўбачыў я нібыта шкляное мора, змяшанае з агнём. А тыя, хто перамог
звера, і вобраз ягоны, і лічбу імя ягонага, што стаялі над шкляным морам,
трымаючы гуслі Божыя. [3]І спявалі яны песню Майсея, слугі Божага, і песню
Баранка, кажучы:

«Вялікія і цудоўныя справы Твае,
Пане Божа ўсемагутны.
Справядлівыя і праўдзівыя шляхі Твае,
Валадару народаў!
[4]Хто ж не будзе баяцца, Пане,
і не праславіць імені Твайго?
Таму што Ты адзін Святы,

таму што ўсе народы прыйдуць
і паклоняцца перад Табою,
бо аб’явіліся Твае справядлівыя прысуды».

[5]Потым убачыў, як адчынілася святыня скініі Сведчання ў небе. [6]І выйшла
са святыні сямёра анёлаў, якія мелі сем бедстваў. Яны былі апранутыя ў чысты
бліскучы лён і падперазаныя вакол грудзей залатымі пасамі. [7]Адна з чатырох
жывых істот дала сямі анёлам сем залатых чаш, напоўненых гневам Бога, які
жыве на векі вякоў. [8]І напоўнілася святыня дымам ад славы Божай і ад моцы
Яго, і ніхто не мог увайсці ў святыню, пакуль не здзейснілася сем бедстваў сямі
анёлаў.

## 16 (1-21)

[1]І я пачуў, як гучны голас казаў са святыні сямі анёлам: «Ідзіце і вылівайце
сем чашаў гневу Божага на зямлю».

[2]І пайшоў першы, і выліў чашу сваю на зямлю. І з’явілася злаякасная і
балючая язва на людзях, якія мелі кляймо звера і пакланяліся вобразу яго.

[3]Другі выліў чашу сваю ў мора. І стала яно як бы крывёю памерлага, і
кожная жывая істота ў моры памерла.

[4]Трэці выліў сваю чашу ў рэкі і крыніцы водаў. І сталі яны крывёю. [5]І я
пачуў анёла водаў, які казаў: «Справядлівы Ты, які ёсць і які быў, Святы, што
так рассудзіў, [6]бо яны пралілі кроў прарокаў, і Ты даў ім піць кроў. Яны вартыя
гэтага!» [7]І я пачуў, як казаў алтар: «Так, Пане Божа ўсемагутны, праўдзівыя і
справядлівыя Твае прысуды!»

[8]А чацвёрты выліў сваю чашу на сонца. І было дадзена яму спаліць людзей
агнём. [9]І людзі былі спаленыя вялікай спёкай, і пачалі блюзнерыць супраць імя
Бога, які мае ўладу над гэтымі бедствамі, і не апамяталіся, каб праславіць Яго.

[10]Пяты выліў чашу сваю на трон звера, і зацьмілася каралеўства яго, а
людзі ад болю грызлі языкі свае, [11]і пачалі блюзнерыць супраць Бога неба за
свой боль і за свае язвы, і не адвярнуліся ад сваіх учынкаў.

[12]Шосты выліў чашу сваю на вялікую раку Еўфрат. І высахла вада яе, каб
была падрыхтавана дарога для каралёў з усходу сонца. [13]І я ўбачыў, як з пашчы
цмока, і з пашчы звера, і з пашчы фальшывага прарока выходзілі тры нячыстыя
духі, быццам жабы. [14]Былі гэта духі дэманаў, якія рабілі знакі. Яны выходзяць
да каралёў усяго свету, каб сабраць іх на вайну ў гэты вялікі дзень ўсемагутнага
Бога.

[15]Вось, прыходжу як злодзей. Шчаслівы той, хто не спіць і пільнуе адзенне
сваё, каб не хадзіць голаму і каб не бачылі сораму яго.

[16]І сабралі іх на месца, якое па-габрэйску называецца Армагедон.

[17]Сёмы анёл выліў чашу сваю ў паветра. І выйшаў голас вялікі са святыні
ад трона, кажучы: «Сталася!» [18]І пачаліся маланкі, і шум, і грымоты, і адбыўся
вялікі землятрус, якога не было ад часу, калі чалавек з’явіўся на зямлі. Такі
моцны, вельмі вялікі землятрус. [19]І распаўся вялікі горад на тры часткі, і ўпалі
гарады язычнікаў. І вялікі Бабілён быў згаданы перад Богам, каб даць яму келіх
віна лютага гневу Яго. [20]І знікла кожная выспа, і не знайшлося гор. [21]І вялізны

град вагою з талант пасыпаўся з неба на людзей. І пачалі блюзнерыць людзі супраць Бога за бедства граду, бо гэтае бедства было вельмі вялікім.

## 17 (1-18)

[1]Затым прыйшоў адзін з сямі анёлаў, якія мелі сем чаш, і пачаў гаварыць са
мною, кажучы: «Хадзем, пакажу табе суд над вялікай распусніцай, якая сядзіць
над вялікімі водамі, [2]з якой распуснічалі зямныя каралі, а зямныя жыхары
напіліся вінам яе распусты». [3]І занёс ён мяне на пустыню ў духу, і я ўбачыў
жанчыну, якая сядзела на пунсовым зверы, поўным імёнаў блюзнерства, які меў
сем галоў і дзесяць рагоў. [4]А жанчына была апранутая ў пурпуровае і пунсовае
адзенне, упрыгожаная золатам, і каштоўным каменнем, і пярлінамі. Яна мела ў
руцэ сваёй залаты келіх, поўны агіды і нячыстасці распусты сваёй. [5]А на чале яе
напісана імя, таямніца: «Вялікі Бабілён — маці распусніц і агіды зямлі».

[6]І я ўбачыў жанчыну, п’яную ад крыві святых і ад крыві сведак Езуса.
Убачыўшы яе, я аслупянеў у вялікім здзіўленні. [7]І сказаў мне анёл: «Чаму ты
здзівіўся? Я раскажу табе таямніцу жанчыны і звера, што носіць яе і мае сем
галоў і дзесяць рагоў. [8]Звер, якога ты ўбачыў, быў, і няма яго, ён павінен выйсці
з бездані і ідзе на згубу. Жыхары зямлі, імёны якіх не запісаныя ў кнігу жыцця
ад заснавання свету, будуць дзівіцца з таго, што быў звер, і няма яго, і з’явіцца.
[9]Тут патрэбны розум, які мае мудрасць. Сем галоў — гэта сем гор, дзе сядзіць
жанчына. [10]Ёсць таксама сем каралёў: пяць упала, адзін ёсць, яшчэ адзін не
прыйшоў, а калі прыйдзе, павінен крыху застацца. [11]А звер, які быў і якога
няма, з’яўляецца восьмым. Належыць да семярых і пойдзе на згубу. [12]А дзесяць
рагоў, якія ты ўбачыў, — гэта дзесяць каралёў, якія яшчэ не прынялі
каралеўства, але як каралі атрымліваюць уладу на адну гадзіну разам са зверам.
[13]Яны з ім адной думкі, а сваю моц і ўладу даюць зверу. [14]Яны будуць ваяваць з
Баранкам, і Баранак пераможа іх, бо Ён Валадар валадароў і Кароль каралёў, а
тыя, хто з Ім, — пакліканыя, выбраныя і верныя».

[15]І кажа мне: «Воды, якія ты бачыў і над якімі сядзіць распусніца, гэта
народы і натоўпы, плямёны і мовы. [16]А дзесяць рагоў, якія ты бачыў, і звер
зненавідзяць распусніцу, спустошаць і агаляць яе, і з’ядуць яе цела і спаляць
агнём. [17]Таму што Бог натхніў іх сэрцы, каб выконвалі Яго намер, будучы
адной думкі з Ім, і каб аддалі зверу сваю каралеўскую ўладу, пакуль не
споўняцца Божыя словы. [18]А жанчына, якую ты бачыў, — гэта вялікі горад, які
мае каралеўскую ўладу над каралямі зямлі».

## 18 (1-24)

[1]Потым я ўбачыў іншага анёла, які сыходзіў з неба і меў уладу вялікую, а
зямля асвятлілася ад славы ягонай. [2]І ўсклікнуў ён моцным голасам, кажучы:
«Упаў, упаў вялікі Бабілён і стаў жыллём дэманаў і прыстанішчам усякага
нячыстага духа, прыстанішчам усякай нячыстай птушкі і прыстанішчам усякага
нячыстага звера, што абуджае агіду, [3]бо вінам лютай распусты яго напіліся ўсе

народы, а каралі зямлі чынілі з ім распусту, і купцы зямлі ўзбагаціліся з
вялізнай раскошы яго!»
[4]І пачуў я іншы голас, які казаў з неба: «Выйдзі, народ мой, з яго, каб вам
не саўдзельнічаць у грахах яго і не пацярпець ад бедстваў яго. [5]Бо ўзышлі грахі
яго аж да неба і згадаў Бог правіны яго. [6]Адплаціце яму, як і ён адплаціў, і
ўдвая аддайце за ўчынкі яго. У келіху, у якім ён гатаваў вам віно, прыгатуйце
яму ўдвая. [7]Колькі ён славіў сябе і жыў у раскошы, столькі дайце яму
катаванняў і смутку. Бо ў сэрцы сваім ён кажа: “Я сяджу як каралева і я не
ўдава, і не зазнаю смутку”. [8]Дзеля гэтага ў адзін дзень настануць бедствы яго:
смерць, смутак і голад, і будзе ён спалены агнём, бо моцны Пан, Бог, які асудзіў
яго».
[9]І заплачуць, і будуць лямантаваць над ім каралі зямлі, якія распуснічалі з
ім і жылі ў раскошы, калі ўбачаць дым ад пажару яго. [10]Стаўшы здалёк ад
страху перад пакутамі яго, скажуць: «Гора, гора, вялікі горад Бабілён, моцны
горад, бо ў адну гадзіну прыйшоў прысуд твой!»
[11]І купцы зямлі плачуць і смуткуюць над ім, бо іх тавару ўжо ніхто не
купляе, тавару [12]золата, і срэбра, і каштоўных камянёў, і пярлінаў, і тонкага
лёну, і пурпуры, і шоўку, і пунсовай тканіны, і ніякага цытрусавага дрэва, і
ніякай рэчы са слановай косткі, і ніякай рэчы з найдаражэйшага дрэва, і медзі, і
жалеза, і мармуру, [13]і карыцы, і амому, і духмянасцяў, і міра, і кадзіла, і віна, і
алею, і чыстай пшанічнай мукі, і збожжа, і жывёл, і авечак, і коней, і павозак, і
целаў, і душ людскіх. [14]І плод жадання душы тваёй адышоў ад цябе, і ўсё сытае
і цудоўнае прапала для цябе, і ты ўжо гэтага ніколі знойдзеш.
[15]Купцы, якія ўзбагачаліся з яго, стануць здалёк ад страху перад ягонымі
пакутамі, [16]кажучы з плачам і смуткам: «Гора, гора, вялікі горад, апрануты ў
тонкі лён, пурпуру і пунсовыя шаты, упрыгожаны золатам, каштоўным камнем
і пярлінамі, [17]бо ў адну гадзіну было спустошана такое багацце!»
І кожны стырнавы, і кожны, хто плыве на караблі, і кожны марак, і ўсе, хто
працуе на моры, сталі здалёк і крычалі, [18]убачыўшы дым пажару яго, кажучы:
«Які горад падобны да гэтага вялікага горада?» [19]І кінулі пыл на галовы свае, і
крычалі ў плачы і смутку, кажучы: «Гора, гора, вялікі горад, з дастатку якога
ўзбагаціліся ўсе, хто мае караблі на моры, бо за адну гадзіну ён апусцеў!
[20]Радуйцеся над ім, неба і святыя, апосталы і пракокі, бо Пан асудзіў яго
паводле вашага суда!»
[21]Адзін магутны анёл узяў камень, падобны да вялікіх жорнаў, і ўкінуў у
мора, кажучы: «З такою сілаю будзе павалены Бабілён, вялікі горад, і ўжо не
будзе яго. [22]І голасу гусляроў і песняроў, і флейтыстаў, і трубачоў у табе больш
не будзе чутна. Не будзе ўжо ў табе ніводнага мастака ніякага мастацтва, і
шуму ад жорнаў не будзе ўжо чутна ў табе. [23]І святло лямпы ўжо не з’явіцца ў
табе. І голасу абранніка і абранніцы не будзе ўжо чутна ў табе. Бо купцы твае
былі вяльможамі зямлі, бо чарадзействам тваім зведзены ўсе народы. [24]І ў цябе
знайшлася кроў пракокаў, і святых, і ўсіх забітых на зямлі!»

## 19 (1-21)

[1]Пасля гэтага я пачуў у небе моцны голас, як бы вялікага мноства людзей,
якія казалі:
«Аллелюя!
Збаўленне і слава, і моц Богу нашаму,
[2]бо праўдзівыя і справядлівыя прысуды Ягоныя;
бо Ён асудзіў вялікую распусніцу, якая нішчыла зямлю сваёй распустай, і
спагнаў кроў слугаў сваіх з яе рукі!»
[3]І другі раз сказалі: «Аллелюя! І дым яе ўзносіцца на векі вечныя!»
[4]І ўпалі дваццаць чатыры старцы і чатыры жывыя істоты, і пакланіліся
Богу, які сядзіць на троне, кажучы: «Амэн. Аллелюя».
[5]І выйшаў ад трона голас, які казаў:
«Хваліце Бога нашага, усе слугі Ягоныя і тыя,
хто Яго баіцца, малыя і вялікія!»
[6]І я пачуў як бы шум вялікага натоўпу, як бы гул вялікіх водаў, як бы голас
магутных грымотаў, што казалі:
«Аллелюя,
бо запанаваў Пан Бог наш усемагутны.
[7]Будзем весяліцца, і радавацца, і праслаўляць Яго,
таму што настала вяселле Баранка,
і падрыхтавалася жонка Ягоная.
[8]І дазволена ёй апрануцца ў бліскучы чысты тонкі лён, бо тонкі лён — гэта
справядлівыя ўчынкі святых».
[9]І сказаў мне анёл: «Напішы: шчаслівыя пакліканыя на вясельную вячэру
Баранка!» І сказаў мне: «Гэта праўдзівыя словы Бога». [10]Я ўпаў да ног ягоных,
каб пакланіцца яму, але ён сказаў мне: «Не рабі гэтага! Я такі ж слуга, як ты і
браты твае, што маюць сведчанне Езуса. Богу пакланіся, бо сведчанне Езуса —
дух прарочы».
[11]І ўбачыў я адкрытае неба: і вось, белы конь, а той, хто сядзіць на ім,
завецца Верным і Праўдзівым, і ў справядлівасці Ён судзіць і ваюе.
[12]Вочы ж Яго — як полымя агню, а на галаве Яго шматлікія дыядэмы. Ён
мае напісанае імя, якога не ведае ніхто, акрамя Яго. [13]Ён апрануты ў плашч,
абмыты ў крыві, а імя Яго — Слова Бога. [14]І спадарожнічалі Яму нябесныя
войскі на белых конях, апранутыя ў чысты белы тонкі лён. [15]І з вуснаў Ягоных
выходзіць востры меч, каб удараць народы. Ён сам *будзе пасвіць іх жалезным
кіем*. Ён сам топча давіла з вінам лютага гневу Бога ўсемагутнага. [16]А на
плашчы і на сцягне Ягоным напісана: Кароль каралёў і Валадар валадароў.
[17]І ўбачыў я аднаго анёла, які стаяў у сонцы і гучна ўсклікаў усім птушкам,
якія лётаюць пасярод неба: «Хадзіце, збярыцеся на вялікую вячэру Бога, [18]каб
з’есці целы каралёў, і целы тысячнікаў, і целы моцных, і целы коней разам з
вершнікамі іх, і целы ўсіх свабодных і нявольнікаў, і малых, і вялікіх».
[19]І я ўбачыў звера, і каралёў зямлі, і іх войскі, сабраныя, каб распачаць
вайну з тым, хто сядзіць на кані, і з войскам Ягоным. [20]І быў схоплены звер, а
разам з ім і фальшывы прарок, які чыніў перад ім знакі, з дапамогай якіх зводзіў

тых, што прынялі кляймо звера і пакланяліся вобразу яго. Абодва былі жыўцом
кінутыя ў вогненнае возера з палаючай серай. [21]Астатнія ж былі забітыя мячом,
які выходзіў з вуснаў таго, хто сядзеў на кані, і ўсе птушкі насыціліся іхнімі
целамі.

## 20 (1-15)

[1]І ўбачыў я анёла, які сыходзіў з неба і меў ключ ад бездані і вялікі ланцуг
у сваёй руцэ. [2]Ён схапіў цмока, змея старадаўняга, які ёсць д’яблам і сатаною, і
звязаў яго на тысячу гадоў, [3]і ўкінуў яго ў бездань, замкнуў і апячатаў яе, каб не
зводзіў больш народы, пакуль не пройдзе тысяча гадоў. А пасля гэтага ён
павінен быць развязаны на кароткі час. [4]І ўбачыў я троны і тых, хто сядзеў на іх
і каму дадзена было судзіць, і душы сцятых за сведчанне Езуса і за слова Божае.
Яны не пакланіліся зверу, ні вобразу ягонаму, і не прынялі кляйма на чало сваё
і на руку сваю. Яны ажылі і пачалі валадарыць з Хрыстом тысячу гадоў. [5]А
іншыя памерлыя не ажылі, пакуль не прайшло тысяча гадоў. Гэта першае
ўваскрашэнне. [6]Шчаслівы і святы той, хто мае ўдзел у першым уваскрашэнні!
Другая смерць не будзе мець над імі ўлады, бо яны будуць святарамі Бога і
Хрыста і будуць валадарыць з Ім тысячу гадоў.

[7]Калі ж міне тысяча гадоў, сатана будзе выпушчаны з вязніцы сваёй, [8]і
выйдзе зводзіць народы на чатырох канцах зямлі, Гога і Магога, каб сабраць іх
на вайну, а лік іх як марскі пясок. [9]Яны выйшлі на прастору зямлі і акружылі
лагер святых і ўмілаваны горад. Аднак сышоў агонь з неба і паглынуў іх. [10]А
д’ябал, які зводзіў іх, быў кінуты ў возера агню і серы, дзе і звер, і фальшывы
прарок будуць мучыцца днём і ноччу на векі вякоў.

[11]І ўбачыў я вялікі белы трон і таго, хто сядзеў на ім, і ад аблічча якога
ўцякалі неба і зямля, і не знайшлося ім месца. [12]І ўбачыў я памерлых, малых і
вялікіх, якія стаялі перад тронам, і кнігі былі разгорнутыя. І разгарнулася іншая
кніга — кніга жыцця. І судзілі памерлых згодна з напісаным у кнігах, паводле
ўчынкаў іхніх. [13]Тады аддало мора памерлых, якія былі ў ім, і смерць, і адхлань
аддалі памерлых, якія былі ў іх. І судзілі кожнага паводле ўчынкаў ягоных. [14]А
смерць і адхлань былі ўкінутыя ў возера вогненнае. Возера вогненнае — гэта
другая смерць. [15]І калі некага не знайшлі запісаным у кнізе жыцця, той быў
укінуты ў возера вогненнае.

## 21 (1-27)

[1]Я ўбачыў новае неба і новую зямлю. Бо першае неба і першая зямля
мінулі, і мора ўжо няма. [2]І ўбачыў я святы горад, новы Ерузалем, які сыходзіў
ад Бога з неба, падрыхтаваны, быццам нявеста, прыбраная для свайго жаніха. [3]І
пачуў я гучны голас з трона, які казаў: «*Вось скінія* Бога з людзьмі, *які будзе
жыць з імі; яны будуць Ягоным народам*, а Ён будзе “Богам з імі”. [4]*І вытра
кожную слязу* з вачэй іхніх, і ўжо не будзе ні смерці, ні смутку, ні плачу, ні
болю ўжо не будзе, бо ранейшае мінула».

[5]І сказаў той, хто сядзеў на троне: «Вось чыню ўсё новае». І дадаў:
«Напішы, што словы гэтыя верныя і праўдзівыя». [6]І сказаў мне: «Сталася! Я —
Альфа і Амега, пачатак і канец. Таму, хто прагне, Я дам задарма піць з крыніцы
вады жыцця. [7]Пераможца атрымае ў спадчыну ўсё, і *Я буду яму Богам, а ён
будзе Мне сынам*. [8]А лёс баязліўцаў, і няверуючых, і тых, хто робіць агіду, і
забойцаў, і распуснікаў, і чарадзеяў, ідалапаклоннікаў і ўсіх падманшчыкаў —
возера, што палае агнём і серай. Гэта другая смерць».
[9]Прыйшоў адзін з сямі анёлаў, якія мелі сем чашаў, напоўненых сямю
апошнімі бедствамі, і загаварыў са мною, кажучы: «Хадзі, я пакажу табе
абранніцу, жонку Баранка». [10]І ўзнёс мяне ў духу анёл на вялікую, высокую
гару і паказаў мне святы горад Ерузалем, які сыходзіў з неба ад Бога [11]і меў
Божую славу. Ззянне ягонае падобнае да каштоўнага, быццам яшма, каменя,
чыстага як крышталь. [12]Меў ён мур вялікі і высокі, меў дванаццаць *брамаў*, а на
брамах — дванаццаць анёлаў і напісаныя *імёны* дванаццаці *плямёнаў сыноў
Ізраэля*. [13]*З усходу тры брамы і з поўначы тры брамы, і з поўдня тры брамы, і з
захаду тры брамы*. [14]Мур горада меў дванаццаць падмуркаў, а на іх —
дванаццаць імёнаў дванаццаці Апосталаў Баранка.
[15]І той, хто гаварыў са мною, меў залатую мерную трысціну, каб памераць
горад, ягоныя брамы і мур. [16]Горад быў чатырохвугольны, а даўжыня ягоная
была роўная шырыні. І ён памераў горад трысцінаю, было дванаццаць тысяч
стадыяў. Яго даўжыня, шырыня і вышыня роўныя. [17]І памераў ягоны мур, ён
быў сто сорак чатыры локці чалавечай меры, якою таксама карыстаўся анёл.
[18]Мур быў пабудаваны з яшмы, а горад — з чыстага золата, падобнага да
чыстага шкла. [19]Фундаменты гарадскіх муроў былі аздоблены ўсялякім
каштоўным каменем: першы падмурак быў з яшмы, другі — з сапфіру, трэці —
з халцэдону, чацвёрты — са смарагду, [20]пяты — з сарданіксу, шосты — з
сердаліку, сёмы — з хрызаліту, восьмы — з бэрылу, дзевяты — з тапазу,
дзесяты — з хрызапрасу, адзінаццаты — з гіяцынту, дванаццаты — з аметысту.
[21]А дванаццаць брамаў былі дванаццаццю пярлінамі, кожная брама была з
асобнай пярліны. А плошча горада была з чыстага золата, як празрыстае шкло.
[22]А святыні ў ім я не бачыў, бо святыня ягоная — гэта Пан Бог усемагутны
і Баранак. [23]І гораду не патрэбны ні сонца, ні месяц, каб яму свяцілі, бо слава
Божая асвятліла яго, а светач ягоны – Баранак. [24]І ў яго святле будуць хадзіць
народы, і валадары зямлі прынясуць яму сваю славу. [25]І брамы ягоныя ніколі не
будуць зачыняцца ўдзень, а ночы там не будзе. [26]І яны прынясуць туды славу і
пашану народаў. [27]І нішто нячыстае не ўвойдзе туды, і той, хто чыніць агіду ці
падман, але толькі тыя, хто запісаны ў кнізе жыцця Баранка.

## 22 (1-21)

[1]І паказаў мне раку вады жыцця, бліскучую, як крышталь, якая выплывала
ад трона Бога і Баранка. [2]*Пасярод* плошчы горада і *ракі, па той бок і па гэты,
— дрэва жыцця*, якое пладаносіць дванаццаць разоў. Кожны месяц дае *плод
свой, а лісце* дрэва — *для лячэння* народаў. [3]І нічога праклятага ўжо не будзе. А
трон Бога і Баранка будзе ў ім, і слугі Ягоныя будуць служыць Яму. [4]І ўбачаць

аблічча Ягонае, і імя Ягонае будзе на іх чолах. [5]І ночы ўжо не будзе, і не будуць
мець патрэбы ні ў святле лямпы, ні ў святле сонца, бо Пан Бог будзе свяціць
над імі; і яны будуць валадарыць на векі вечныя.

[6]І сказаў мне: «Гэтыя словы пэўныя і праўдзівыя, і Пан, Бог духаў
прароцкіх, паслаў анёла свайго паказаць слугам сваім тое, што павінна адбыцца
неўзабаве. [7]І вось прыйду неўзабаве. Шчаслівы той, хто захоўвае словы
прароцтва гэтай кнігі».

[8]Я, Ян, чуў і бачыў гэта. А пасля таго як пачуў і ўбачыў, упаў пакланіцца ў
ногі анёлу, які паказваў мне гэта. [9]І ён сказаў мне: «Не рабі так. Я слуга як і ты,
і твае браты — прарокі, і тыя, хто выконвае словы гэтай кнігі; Богу пакланіся!»

[10]Потым сказаў мне: «Не запячатвай слоў прароцтва гэтай кнігі, бо час
блізкі! [11]Хто чыніць несправядлівасць, няхай яшчэ чыніць несправядлівасць, і
нячысты няхай яшчэ забруджваецца, а справядлівы няхай далей чыніць
справядлівасць, і святы няхай яшчэ асвяціцца.

[12]Вось прыйду неўзабаве і адплата Мая са Мною, каб адплаціць кожнаму
паводле ўчынкаў ягоных. [13]Я — Альфа і Амега, першы і апошні, пачатак і
канец. [14]Шчаслівыя тыя, хто мые шаты свае, каб мець уладу над дрэвам жыцця і
праз браму ўвайсці ў горад. [15]Звонку застануцца сабакі, і чарадзеі, і распуснікі, і
забойцы, ідалапаклоннікі і кожны, хто любіць ці чыніць падман!

[16]Я, Езус, паслаў Майго анёла засведчыць вам пра гэта ў Касцёлах. Я —
корань і патомства Давіда, ясная ранішняя зорка».

[17]А Дух і нявеста кажуць: «Прыйдзі!» І хто чуе, няхай скажа: «Прыйдзі!» І
хто прагне, няхай прыйдзе, і хто хоча, няхай возьме ваду жыцця дарма.

[18]Я сведчу кожнаму, хто слухае словы прароцтва гэтай кнігі. Калі хто-
небудзь дадасць да гэтага нешта, Бог спашле на яго бедствы, апісаныя ў гэтай
кнізе. [19]А калі хто-небудзь выкіне нешта са слоў кнігі прароцтва гэтага, Бог
адкіне яго ад дрэва жыцця і выкіне са святога горада, апісаных у гэтай кнізе.

[20]Той, хто сведчыць пра гэта, кажа: «Так, хутка прыйду».

«Амэн. Прыйдзі, Пане Езу!»

[21]Ласка Пана Езуса няхай будзе з усімі.

---